*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
◈ № 17 (177) ◈ 27 красавіка 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***22 КРАСАВІКА У СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПАЧАЛА СВАЮ РАБОТУ ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ СВЕТУ.** Яе ініцыятарамі і арганізатарамі сталі Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, Беларускае аб'яднанне студэнтаў з Беласточчыны, Маладзёжная філія БНФ. У Менск прыехалі прадстаўнікі каля 20 маладзёжных беларускіх суполак з краін СНД, Польшчы і Балтыі. У сустрэчы бяруць удзел каля 200 дэлегатаў.*

**ЗАГАДАМ РЭКТАРА ЕЎРАПЕЙСКАГА ГУМАНІТАРНАГА УНІВЕРСІТЭТА** народны дэпутат, доктар тэхнічных навук Станіслаў Шушкевіч назначаны дырэктарам Цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў.

***У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛО ПАСЯДЖЭННЕ** Міжнароднай навуковай акадэміі «200 гадоў вызваленчага паўстання 1794 года». Удзельнічалі ў ёй навукоўцы не толькі з розных гарадоў нашай краіны, але і з Расіі, ЗША, Польшчы.*

**У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА ВЯЧАСЛАВА КЕБІЧА** з кіраўніцтвам дзяржаўных маладзёжных структур і прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый рэспублікі, вынікам якой стане прыняцце ўрадавай пастановы па праблемах моладзі. Адказваючы на адно з пытанняў «Беларускай маладзёжнай», В. Кебіч зазначыў: «Больш паловы ўрада, калі б давялося фарміраваць яго цяпер, памяняў бы на моладзь...»

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСІ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА МЯЧЭСЛАВАМ ГРЫБАМ ПРАВЯЛА ПЕРАМОВЫ** з дэпутатамі і прадстаўнікамі кіраўніцтва Еўрапарламента па пытанню аб прызнанні Беларусі ў якасці дзяржавы з пераходнай эканомікай. Інфармуючы парламентарыяў аб палітычнай сітуацыі ў краіне, М. Грыб заявіў, што лічыць верагоднай магчымасць правядзення новых парламенцкіх выбараў у Беларусі не ў лістападзе—снежні гэтага года, на чым настойвае Прэзідыум Вярхоўнага Савета, а вясною 1995 года.

***ПАРЛАМЕНЦКАЯ КАМІСІЯ ПА ЗАКАНАДАУСТВУ 21 КРАСАВІКА НАЗВАЛА ПРОЗВІШЧЫ 8 З 15 КАНДЫДАТАЎ У ЧЛЕНЫ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА.** Гэта Рыгор Васілевіч, Віктар Ганчар, Аляксандр Марыскін, Міхаіл Пастухоў, Валянціна Падгруша, Марына Сатольнава, Валерый Ціхіня і Валерый Фадзееў. Імёны гавораць самі за сябе.*

**НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ СТАРШЫНЯ ПАРЛАМЕНЦКАЙ КАМІСІІ ПА ЗАКАНАДАЎСТВУ ДЗМІТРЫЙ БУЛАХАЎ ВЫКАЗАЎСЯ** наконт падпісання дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі, адзначыўшы, што прававая прырода гэтага дагавора «яўна небездакорная», а таксама сказаў: «Працягнуць гэты дагавор, грунтуючыся на праве, на прававой структуры заканадаўства Рэспублікі Беларусь,— немагчыма...»

*Няўжо наш Край пракляты Богам,*
*Каб вечна мучыўся наш люд?*
*Чарнобылем засеяна дарога,*
*Азмрочана ідэямі Іуд.*
*І смерці пыл ляціць у нашы душы,*
*У нашу волю — чорнай здрады глыж.*
*А мы ідзём, мы грамадою здужым*
*Сваю нядолю, свой нялёгкі крыж!*

## Прывітанне з Канады з нагоды 76-х угодкаў абвяшчэння БНР

Шаноўнае спадарства! Галоўная Управа Згуртавання беларусаў у Квэбэку, Парафіяльная Рада Парафіі Спаса ў Монтрэалі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і рэдакцыя часопіса «Прамень» віншуюць суродзічаў з нагоды 76-х угодкаў Абвяшчэння Незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі і зычаць супрацоўнікам рэдакцыі, сябрам рэдакцыйнай калегіі, а таксама ўсім чытачам моцнага здароўя, шчасця, вытрываласці ў нялёгкай вашай працы Беларускага Нацыянальнага Адраджэння, далейшых поспехаў на гэтым цярністым шляху.

Ведайце, што ў далёкім ад нашай Бацькаўшчыны-Беларусі Квэбэку вы маеце гарачых прыхільнікаў, уважлівых чытачоў, хай гэта дапаможа вам пераадолець усе цяжкасці на вашым шляху. Мы з вамі, з нашай Беларуссю.

Жыве Беларусь!

Старшыня Згуртавання Беларусаў у Квэбэку Анатоль ХРЭНОЎСКІ.
Старшыня Парафіяльнай Рады і рэдактар часопіса «Прамень» Раман КАРДОНСКІ.

## *ЗВАРОТ*

### *да ўсіх арганізацый і актывістаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Беларускага таварыства «Кніга»*

Зважаючы, што Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Беларускае таварыства «Кніга» — блізкія па сваіх мэтах і задачах грамадскія арганізацыі, звяртаемся да ўсіх з наступным:

З прыняццем Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, дзе абвешчана адзінай дзяржаўнай беларуская мова, становіцца відавочна, што нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне мае падставы быць незваротным. Важная, ці нават галоўная роля ў гэтым працэсе належыць грамадскасці і, у першую чаргу, нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, самаахвярнымі высілкамі якіх і створаны нашы грамадскія арганізацыі.

На сучасным этапе вельмі важна аб'яднаць намаганні ўсіх, каму дорага ідэя вяртання беларускаму народу яго роднай мовы, яго нацыянальнага адраджэння.

На наш погляд, для нашай сумеснай дзейнасці на гэтай ніве ёсць шырокія магчымасці. І найлепшым чынам гэтыя магчымасці можна выкарыстаць праз плённую сумесную працу нашых мясцовых арганізацый, усіх актывістаў і прыхільнікаў беларускай мовы, нашай нацыянальнай культуры. Мы лічым, што пачаткам такога супрацоўніцтва магло б быць далучэнне актывістаў Таварыства «Кніга» да конкурсу на лепшую арганізацыю ТБМ, які прысвечаны пятым угодкам з дня заснавання ТБМ (умовы конкурсу надрукаваны ў газеце «Наша слова», № 13 ад 30 сакавіка г. г.).

Агульнымі намаганнямі зробім усё, каб зацікаўлены беларускамоўнымі выданнямі чытач знайшоў сваю кнігу ў кнігарні ці кіёску, у бібліятэцы ва ўстановах народнай адукацыі і інш., каб беларускае слова запанавала паўсюдна і назаўсёды.

Сакратарыят Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.
Рада Рэспубліканскага праўлення Беларускага таварыства «Кніга».

*У ГАЗЕТАХ*

## Выйсце для Беларусі

Штотыднёвая газета для нашых суайчыннікаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны, «Голас Радзімы» (№ 7, 17 лютага г. г.) пад рубрыкай «Палемічныя нататкі» змясціла аналітычны артыкул старшыні Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, прафесара Міколы Крукоўскага «Інтэлігенцыя і беларуская ідэя». Аўтар паслядоўна прыходзіць да высновы, што цяпер, напярэдадні новых выбараў, нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі «трэба рыхтаваць не зброю, а разумныя ідэі, трэба мудра і спакойна падсумаваць, што мы маем і што павінны рабіць і мець, каб заваяваць давер нашага затурканага, зняверанага народа, да якога камуністы заўсёды ставіліся як да быдла».

Прафесар Крукоўскі таксама падкрэслівае, што «з развалам прагніўшага ўсесаюзнага камуністычнага будынка і з крахам афіцыйнай яго ідэалогіі... вакуум утварыўся не толькі ў нашых душах, але і ў нашых галовах». Далей аўтар ставіць пытанне: «Чым жа запоўніць той глыбокі духоўны вакуум?» Выйсце, на думку прафесара, ёсць: «зыходзіць толькі з саміх сябе, разумна скарыстоўваючы... дасягненні духу другіх народаў і культур... Нам трэба дзейнічаць у беларускацэнтрычнай сістэме каардынат, разглядаемай як частка агульначалавечай сістэмы. Толькі так... можна будзе нам адрадзіць беларускую самасвядомасць і беларускую духоўную культуру. Аснова для гэтага ў нас ужо ёсць: гэта мова, народная творчасць, гісторыя і... рэлігія».

Адзначым, што ў той час, калі наш Вярхоўны Савет і ўрад адзіным шляхам выхаду Беларусі з цяперашняга татальнага крызісу лічаць усебаковую арыентацыю на Расію (відаць, аж да зліцця з апошняй), аўтар прапануе альтэрнатыву — кіравацца пераважна на ўласны духоўны і матэрыяльны патэнцыял, пры гэтым пра «старэйшага брата» ён нават не згадвае.

## ПЫТАННІ ДА АРХІБІСКУПА

Незалежная газета «Свабода» (№ 13) змясціла невялікую нататку Антоні Дамброўскага «Архібіскуп Казімеж Свёнтак сумняваецца ў вартасцях беларускай мовы», дзе аналізуецца гутарка з прэлатам, апублікаваная польскім часопісам «Культура» (№ 3, 1994 г.), што выходзіць у Парыжы. Сярод прычын, якія нібыта дагэтуль не дазваляюць шырока выкарыстоўваць дзяржаўную мову нашай краіны ў касцёлах, К. Свёнтак называе адсутнасць «літургічных кніг па беларускай мове» і тое, што «большая частка нашых вернікаў польскага паходжання», таму «польскія каталікі маюць права карыстацца роднай мовай». Ён лічыць таксама, што «беларуская мова яшчэ не ўнармаваная», выказвае нават здзіўленне: «як можна дамагацца ўжывання беларускай мовы ў касцёлах, калі гэта мова не знаходзіцца ў абыходку грамадскага жыцця».

У сувязі з гэтым аўтар нататкі ставіць шаноўнаму архібіскупу, які, заўважым, з'яўляецца ганаровым Сябрам Саюза палякаў Беларусі, некалькі пытанняў: «Хто замінае яму весці працу над падрыхтоўкай і выданнем літургічных кніг па-беларуску?», «Ці зроблена біскупіяй хоць што-небудзь для збору, уліку і выдання той найбагацейшай беларускай каталіцкай тэрміналогіі, якую распрацавалі і плённа ўжывалі беларускія ксяндзы перад вайной і пасля ў эміграцыі?», «Ці адрознівае біскуп «касцёльных» палякаў ад палякаў этнічных?»

Мяркуем, згаданыя пытанні да архібіскупа падтрымліваюць усе нацыянальна свядомыя грамадзяне нашай краіны. Найбольш верагодна, што яны застануцца адкрытымі, бо стаўленне К. Свёнтака да беларускасці агульнавядомае. Відаць, найперш яно тлумачыцца тым, што пан прэлат — паляк? Ён сам, дарэчы, гэта ўжо неаднойчы ў друку падкрэсліваў. Праўда, апошнім часам архібіскуп стаў часцей карыстацца беларускай мовай. Напрыклад, яго нядаўняе велікоднае набажэнства, якое транслiравалася рэспубліканскім тэлебачаннем, ужо гучала па-беларуску.

М. В.

## *УВАГА!*

Рэдакцыя газеты «Наша слова» пераехала ў новае памяшканне па адрасу: вуліца Чычэрына, 1 (каля тэатра оперы і балета). Праезд аўтобусамі № 24, 38, 72, 77, 91; тралейбусамі № 12, 25, 29, 27, 40, 43. Рэдакцыя газеты знаходзіцца на трэцім паверсе, пакоі № 316, 317, 318.

Адрас рэдакцыі:
220029, г. Менск,
вул. Чычэрына, 1.

*З рэдакцыйнай пошты*

# «... адкрыўся чароўны свет»

Шмат цікавага і карыснага для сябе атрымоўваю, калі чытаю «Наша слова», так патрэбную зараз для ўсіх беларусаў газету.

Жывём мы з мужам на ягонай радзіме, у маленькай вёсачцы з цудоўнай назвай Гарадок. Муж мой — карэнны беларус, а я — расіянка, нарадзілася ў Сібіры, у Томскай вобласці, дзе нарадзіліся і жывуць мае бацькі і ўся радня, дзе пахаваны мае продкі. Жыву я на Беларусі некалькі гадоў ужо, канешне, сумую па радзіме, але ніколі не шкадавала, што пераехала сюды. У Сібіры народ спакойны, працавіты, а вось беларусы — гэта для мяне было сапраўднае адкрыццё!.. Зусім іншыя характары, звычаі, побыт, нарэшце, сама мова, якая спярша здаецца такою лёгкай для вывучэння. Падабаюцца тут мне і людзі, і мясціны, дый, канешне ж, мілагучная мова беларуская.

Спачатку я не разумела многія словы, заўсёды дапамагаў у перакладзе муж. Вельмі мне пашанцавала ў працы: адразу ж уладкавалася ў вясковую бібліятэку, і вось тады для мяне адкрыўся неабсяжны, чароўны свет беларускае літаратуры. Я вельмі люблю кнігі, чытаю з чатырохгадовага ўзросту, але ж «ваенная» літаратура мяне ніколі не прываблівала. А калі аднойчы прачытала аповесць Васіля Быкава «Знак бяды» — моцна ўразіў мяне гэты твор, а пазней — таксама ўсе ягоныя творы.

Мову беларускую я вывучала самастойна, пакуль, канешне ж, не дасканала ёю авалодала, але ніколі не спыняюся ў гэтай захапляючай мяне справе, шмат набываю літаратуры як мастацкай, так і навуковай. Часта бывае непрыемна, балюча ў кнігарнях пачуць, як пакупнікі не хочуць купляць, адпіхваюць ад сябе кнігі на беларускай мове, амаль усе шукаюць рускамоўных. Дый наогул, як я разумею, беларусы ў большасці сваёй амаль страцілі цікавасць да роднае культуры.

Мяне вельмі ўразіў артыкул Міколы Бусла («Н. с.», № 12, 1994 г.) пра «беларусафобію». На вялікі жаль, гэта так. Такая цудоўная, таленавітая нацыя апынулася на мяжы духоўнага знішчэння. Стагоддзі пакутавалі беларусы праз абмежаванні з розных бакоў. Нарэшце, надышоў светлы час, на ўвесь свет абвясціла сваю незалежнасць Беларусь, дамаглася права жыць далей так, як яна жадае: размаўляць, пісаць, спяваць, ствараць дзеля свайго Адраджэння. І вось гэты, баюся, апошні шанц мы можам страціць з-за сваёй абыякавасці да беларускай духоўнасці...

Дарагія Беларусы! Звяртаюся да ўсіх: і хто шчыра абараняе беларускасць, і хто вагаецца (за кім, менавіта, пайсці), і хто дасюль не можа вырашыць, што лепей (ці незалежна, ці хутчэй бегчы ў «рублёвую зону»?), — да ўсіх хачу дакрычацца. Не трэба давяраць заклікам такіх «товарищей» — звышінтэраў, якія лямантуюць пра бездапаможнасць Беларусі без Расіі. Той жа Кебіч ужо неадночы проста неяк падзіцячы ўсё абяцанкамі частаваў.

Ніколі раней не цікавілася палітыкай, лічыла, што анічога не зменіцца, як ні абурайся. У нас толькі на паперы — усе маюць аднолькавыя правы, а вырашаюць лёс усяго насельніцтва вярхі — усяго некалькі дзесяткаў кіраўнікоў... Я, паўтараю, не палітык, не эканаміст, але ж выйсце, думаю, да станоўчых для дзяржавы вынікаў у тым, каб усе нашыя дэмакратычныя сілы, партыі, рухі, якія за суверэнітэт і Адраджэнне, як мага часцей сустракаліся б з вяскоўцамі, местачкоўцамі і папростаму, зразумела растлумачылі б ім, як ратаваць сябе ад «залежнасці», каб ужо людзі потым не блыталі: ці Пазьняк — нацыяналіст, ці мужны патрыёт Радзімы, каб той жа Зянон Станіслававіч стаў для вяскоўцаў сапраўдным аўтарытэтам, як ён ёсць для мяне. Колькі я размаўляю з аднавяскоўцамі ці слухаю іх, бачу, што яны часта памылкова ацэньваюць сённяшнія падзеі, бо пазбаўлены дасканалых звестак. А так важна, каб народ, выбіраючы першага прэзідэнта Беларусі, цвёрда ведаў, каго выбраць: ці «товарища такого-то», ці абаронцу нацыі. А можа ж адбыцца так, што не вельмі дасведчанае сялянства сваёй большасцю пасадзіць у прэзідэнцкі фатэль «товарища», які, маўляў, пенсіі павялічвае, турбуецца за нас, ці Лукашэнку, які «мафію разагнаў» дый, наогул, «справядліва гаварыць».

Многія, напэўна, ведаюць з пісьмаў чытачоў у друк, з вусных скаргаў, а хто й сам быў калі-нікалі сведкам таго, як у розных чэргах крыўдзяць старых людзей маладзейшыя: маўляў, што вы нарабілі сваёй рэвалюцыяй, кампартыяй. Так можа стацца зараз і з намі, ці не прыйдзецца адказваць сваім дзецям на іхнія папрокі ў наш бок?.. Яны жорстка спытаюць у нас: чаму вы маўчалі ў той час, калі адбывалася знішчэнне Беларусі?

130 гадоў таму Кастусь Каліноўскі ў сваім «Лісце з-пад шыбеніцы» заклікаў суайчыннікаў рашуча змагацца за нацыянальную свабоду.

Калі я жыла ў Сібіры, нідзе ніколі не чула, каб хтосьці абразіў беларусаў, дый тут колькі я жыву, мяне таксама ніхто ніколі не пакрыўдзіў. Я добраахвотна прыехала сюды жыць, таму абавязана паважаць Беларусь і шчыра хачу быць карыснай яе народу. А калі хто абвінаваціць мяне ў нейкай здрадзе ў адносінах да Расіі, то скажу вось што: не трэба менавіта цяпер параўноўваць стан расійскае духоўнасці з культурным становішчам Беларусі, таму што расійскай мове зусім не пагражае занепад, не пагражае ёй і «далучэнне» да якога-небудзь «старэйшага брата». Зусім іншая справа — з майго боку — хваляванне за далейшы лёс Беларусі.

Часта думаю, наўжо шматгадовай прапагандай бальшавікі дасягнулі сваёй мэты: зрабіць з таго ж беларуса чалавека без нацыянальнае годнасці ці нейкага «сапсаванага палякамі рускага»?.. Зусім не хочацца ў такое верыць, наадварот, я ўпэўнена: беларусы не менш за іншыя народы таленавітыя, працавітыя і патрыятычныя.

**Людміла ЛЕЎЧАНКА,**
**студэнтка-завочніца III курса аддзялення беларускае мовы і літаратуры БДУ.**

*Беларускі пашпарт*

# Не трэба забывацца пра сваё

***Ужо многа пісалася і гаварылася, якім быць беларускаму пашпарту. (Магчыма, ужо позна, але хачу пра тое сказаць і я). Чаму ў пашпарце не будзе сказана, якая нацыянальнасць грамадзяніна? Дзіўна, чаму рашылі не пісаць. Каб ды зноў механічна не стала лічыцца: каталік — значыць паляк; праваслаўны — рускі. А дзе ж беларусы?***

***Другое. Не будзе запісана па бацьку. Зноў нейкая недарэчнасць. Нават у даваеннай Польшчы пісалі: Ян сын Яна. Калі ўжо адыходзіць ад расійскага Іван Іванавіч, то можна было б пісаць таксама Іван сын Іванаў. Або пісаць так: Лукашэвіч Алесь Іван (ці Алесь Іванаў). Навошта гэта патрэбна? Каб не блытаць жыхароў. У многіх мясцінах Беларусі ў вёсках многа аднолькавых прозвішчаў. Так, у маёй роднай вёсцы (каля Скідаля) многа прозвішчаў Белка. Колькі было адных толькі Белкаў Мікалаяў, Кугуцька Іванаў! А тут у Першамайскім сельсавеце Шчучынскага раёна ў вёсцы Матылі: Янковіч, Саковіч, у вёсцы Замасцяны: Лебядзевіч, Сідлярэвіч. Колькі будзе блытаніны ў паштовых і іншых работнікаў! І гэта не жарты. Помню, як у бальніцы медсёстры блыталі лякарства пры раздачы хворым, пакуль не пачалі ўсіх зваць па бацьку.***

***Па-трэцяе, трэба пісаць кірыліцай, а не лацінкай. Не трэба адмаўляцца ад свайго алфавіту. Ён наш. Пётр I у беларусаў запазычыў акругленую на лацінскі лад кірыліцу. Калі ўжо вялікая патрэба, то і лацінку, але без кірыліцы ніяк нельга. Які гэта беларускі пашпарт, калі ён толькі для чыноўнікаў Еўропы, а не мясе нічога свайго, нацыянальнага? Скарына ад кірыліцы не адказваўся, у ВКЛ законы ў Статуце пісаны не лацінкай. Ісці ў Еўропу — гэта не значыць забыць усё сваё.***

***Павел ДУБОК,***
***настаўнік.***
в. Першамайская Шчучынскага р-на.

*ПЫТАННЕ — АДКАЗ*

# Ёсць у Вільні ТБМ

Некаторыя нашы чытачы выказалі пажаданне, каб газета больш падрабязна расказала пра дзейнасць беларускіх грамадска-культурных арганізацый у Летуве, асабліва пра тамтэйшае Таварыства беларускай мовы.

З Вільні мы атрымалі наступную інфармацыю.

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю афіцыйна зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Летувіскай Рэспублікі 25 сакавіка 1992 г. У ягоным складзе зараз 25 рэгіянальных суполак, у тым ліку ёсць сябры ў памежных з Летувай раёнах Беларусі. Суполкі створаны ў самой Вільні, Віленскім, Салешніцкім, Тродскім, Свянцянскім, Ігналінскім раёнах, а таксама ў Коўне і Клайпедзе.

Мэты, задачы і дзейнасць ТБМ Віленскага краю вызначаны ягоным статутам. Адраджэнне, захаванне і развіццё беларушчыны — галоўны сэнс стварэння і існавання арганізацыі. Робяцца захады па пашырэнні беларускамоўнага асяродку шляхам стварэння гурткоў па вывучэнні роднай мовы (у першую чаргу сярод дзяцей), распаўсюджвання беларускіх перыядычных выданняў, кніжак.

Першапачатковая задача — стварэнне ў Вільні Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтра (гімназія, музей, бібліятэка, Божы храм, друк).

**ХРОНІКА ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ ВІЛЕНШЧЫНЫ**

— Удзел у адкрыцці царквы ў Сенніцы і касцёла ў Варнянах;
— Выпуск бюлетэня (спачатку «Сенніцкая Грамада», затым «Віленская»);
— Акцый пратэсту супраць перайменавання ў Вільні вул. Я. Купалы;
— Падрыхтоўка і накіраванне на вучобу ў ВНУ і тэхнікумы Беларусі віленчукоў-беларусаў;
— Адкрыццё ў школах гурткоў па вывучэнні беларускай мовы;
— Правядзенне сходаў, канферэнцый беларусаў-віленчукоў па пытаннях беларускага нацыянальнага адраджэння;
— Удзел у з'ездах беларусаў Свету і блізкага замежжа;
— Дапамога ў правядзенні экскурсій па Вільні, а таксама прыём беларусаў-пілігрымаў падчас візіту папы Рымскага;
— Удзел у перадвыбарчай кампаніі ў Сейм Летувы (вылучэнне кандыдата ад ТБМ, агітацыя);
— Збор беларускіх кніжак і стварэнне бібліятэкі ТБМ;
— Збор экспанатаў для гісторыка-этнаграфічнага музея «Засцянковая хата».

Таварыства беларускай мовы Віленскага краю пакуль што адзіная грамадска-культурная арганізацыя, якая мае статус рэспубліканскай і спрыяе хутчэйшаму правядзенню даўно наспелага з'езда беларусаў Летувы, чаму, на вялікае шкадаванне, некаторыя віленскія культурныя суполкі па не зусім зразумелых прычынах робяць перашкоды.

ТБМ Віленскага краю стаіць за цеснае супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі на карысць развіцця беларушчыны на Віленшчыне.

Старшыня ТБМ зараз — Матусевіч Марыя Міхайлаўна, настаўніца сярэдняй школы № 32 г. Вільні. Адказны (выканаўчы) сакратар — Гіль Юры Пятровіч, рабочы швейна-футравай фабрыкі «Жыміс».

Штаб-кватэра ТБМ Віленскага краю месціцца па адрасу: г. Вільня, вул. Архітэкту, 23—79, т. 44-23-69.

**НАШ КАР.**

*РЭХА*

# Калі не ў дзверы,

*«Очень нужно независимое государство и белорусской интеллигенции, которая надеется наконец-то избавиться от комплекса неполноценности (кстати, комплекс-то — от бездарности)...»*

*«Віцьбічы», 2.11.92 г., С. Голубев. «Почем опиум для народа?».*

**Усім відавочна, як апошнім часам ажывіліся нядобразычліўцы ўсяго беларускага. «Заваліць» Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы не ўдалося, а з прыняццем 17-га артыкула Канстытуцыі гэта ўжо практычна немагчыма. Тым не менш, вышукваюцца ўсё новыя шляхі, якія б вялі да знішчэння беларускасці.**

**Ва «ўлонні» «славянскага дома» і амаль што племянной рэлігіі трэцяга Рыма выспелі накірункі, метады і шляхі ўздзеяння на псіхалогію тых, хто ў розныя часы трапіў «пад руку», што трымала Вялікадзяржаўны скіпетр. Тым больш гэта проста зрабіць таму, што кагорта, якая лічыла сябе заўжды вышэйшай у адносінах да тутэйшай «неполноценной бездарности», і носьбіты рабскай ментальнасці, якія прытуліліся да гэтай белай косткі, гатовыя на любую паслугу дзеля велічы, якая мроіцца ім у выглядзе двухгаловай драпежнай птушкі.**

**Прыціхлая купка віцебскіх актывістаў Славянскага Сабора пасля сваіх скандальных выступленняў аб «імперскасці» беларускага народа ў мясцовым друку і маскоўскай «Правде» набыла другое дыханне пасля жыватворных для «товарищей» падзей апошняга часу.**

**Акцыя педінстытуцкіх фізікаў і філосафаў са зборам подпісаў у залежных ад іх студэнтаў аб падтрымцы «двуязычия» не дала жаданых вынікаў. З'явілася новая — стварэнне «рускага» універсітэта ў Віцебску. Абавязкова ў Віцебску. Здавалася б, што тут дрэннае. Людзі ахоплены высакароднымі ідэямі, узнёслымі думкамі аб карысці Бацькаўшчыны! Якія могуць быць пярэчанні? Але... Славянасабораўцам хацелася б Віцебск лічыць нейкім асабліва «рускім» горадам з асаблівым «рускім» насельніцтвам. І гэта яны пнуцца ўбіць у свядомасць людзей праз свой друк, нават нягледзячы на афіцыйныя вынікі перапісу 1989 г. (згодна з перапісам у Віцебску беларусаў 69,7 працэнта, з іх лічылі беларускую мову роднай 49,2 працэнта; на вёсцы, дзе 87 працэнтаў беларускага насельніцтва, роднай мовай лічаць беларускую 94,8 працэнта ). Так было пяць гадоў таму.**

**Дацэнт кафедры фізікі А. Макееў паведамляе праз газету «Віцьбічы», што, бачыце, рускі універсітэт трэба зрабіць у сувязі з «апартеидом (?!) по отношению к**

РЭХА

# І НА УКРАІНЕ ЁСЦЬ ПАЛЕШУКІ, АЛЕ ЯЦВЯГАМІ СЯБЕ НЕ ЛІЧАЦЬ

У 5-м нумары газеты «Новая зямля» змешчаны развагі галоўнага рэдактара Анатоля Казловіча наконт «ваяўнічага яцвяга» Шаляговіча, які збіраецца балаціравацца на пост мэра «сталіцы» Палесся — Пінска. Гэта — раз, а па-другое, падпісаў разам з камуністамі «дремуче-большевистское воззвание наших дней» — ударыўся ў «вялікую палітыку». Спадару Казловічу чамусьці нязвыкла бачыць «яцвяга» Шаляговіча і камуніста Чыкіна ў адной «камандзе», камандзе, якая выступае за аднаўленне СССР, за зліццё Беларусі з Расіяй у «адзіную імперыю ад Брэста да Курылаў». Такі вось вельмі «незалежны» новы «бацька» яцвягаў.

У свой час мне пасля заканчэння кааператыўнага тэхнікума прыйшлося працаваць у Століне. Безумоўна, першае, што кінулася ў вочы, гэта нязвыклая на слых беларусу з Меншчыны гаворка мясцовага люду: у ёй было шмат украінізмаў, оканне. Але мова гэтая мне была зразумелая без староннiх перакладчыкаў. І зараз, калі я ўжо шмат гадоў жыву на Украіне, паездзіў па месцах пражывання ўкраінскіх палешукоў на Валыні і Жытоміршчыне, мушу прызнаць, што гаворкі беларускіх і ўкраінскіх палешукоў вельмі падобныя. Але ж сярод украінскіх палешукоў няма «лідэра», які аб'явіў бы іх «яцвяжскай нацыяй» і запатрабаваў бы аўтаноміі са сваёй сталіцай, парламентам, прэзідэнтам. Магчыма, гэта таму, што ўкраінская мова з'яўляецца роднай для ўкраінскіх палешукоў, якія сябе з годнасцю лічаць часткай украінскага народа. А вось на беларускім Палессі беларуская мова (ці ліцвінская, як некалі чытаў я ў лістку «Збудінне» на «заходнепалескай мове») не стала роднай некаторым палешукам: у сям'і яны паміж сабой размаўлялі на мясцовым дыялекце, а ў школе іх вучылі на расейскай мове. У дадатак у Пінску і Брэсце выдаваліся і працягваюць выдавацца газеты на расейскай мове, на ёй жа вядзе перадачы і мясцовае радыё. Вось гэтую ненармальную сітуацыю ў сваім палескім рэгіёне і паспрабаваў выкарыстаць «бацька» яцвягаў Мікола Шаляговіч. Надоечы чуў ягонае інтэрв'ю «астанкінскаму салаўю» Жуку ў сувязі з правядзеннем фальклорнага фестывалю «Ятвязь-94», дзе ён называе свой рэгіён суверэннай Рэспублікі Беларусь ні многа ні мала як «Русь Полесская»! Вось вам, спадарства, і назва «аўтаноміі». Толькі яшчэ да канца не вырашана, у складзе якой дзяржавы.

У сваіх развагах у «Новай зямлі» пісьменнік Анатоль Казловіч прыводзіць шэраг выказванняў палешукоў, проста чытачоў газеты «Чырвоная змена», якая ў свой час пусцілася выдаваць цэлую старонку на «мове палешукоў» — «Балесы Полісься». Паэт Мікола Федзюковіч — паляшук, і я веру яму, калі ён называе ўсё, што друкавалася на гэтай старонцы, «чартаўшчынай»: бездапаможныя спробы пяра, сверб самалюбства, ніякай душэўнай патрэбнасці... Як кажуць, праблема ўся гэтая высмактана з пальца! Ніхто не забараняе палешукам размаўляць на сваім мясцовым дыялекце, але вучыцца ў школах, тэхнікумах і інстытутах усё ж варта на агульнанацыянальнай мове краіны, у якой жывуць самі, у якой будуць пасля іх жыць іхнія нашчадкі — на літаратурнай беларускай мове . І не трэба баяцца гаварыць аб гэтым палешукам: людзі яны кемлівыя, таму разумеюць, што Мікола Шаляговіч усяго толькі такім спосабам імкнецца вызначыцца, як разумеюць тое, што яны беларусы. А што мова іх падобна крыху на ўкраінскую, то гэта звязана з геаграфічным становішчам Палесся, кроўным радством беларускага і ўкраінскага народаў увогуле, і палешукоў дзвюх нашых краін у прыватнасці...

Казловіч называе Шаляговіча паэтам. Што ж, чалавек піша нейкія вершы. Але асабіста я ведаю на Палессі ўсё ж такіх паэтаў, як Рудкоўскі, Ніна Мацяш, Мікола Федзюковіч, маю ў сваёй хатняй бібліятэцы іх творы на прыгожай беларускай мове. А Яўгенія Янішчыц? Таксама паляшучка, і таксама пісала на беларускай мове, бо толькі на ёй жыхар Беларусі і можа пісаць такія вершы, якія прачытае кожны — на Палессі, на Гродзеншчыне ці Меншчыне!..

Што да Шаляговіча і ўсіх, хто яго падтрымлівае, няўжо ім так руніць стварыць у краіне «свой Карабах»?

Безумоўна, артыкул Казловіч напісаў своечасова, у ім падняты многія праблемы, але, на маю думку, баяцца не трэба сёння ні Чыкіных, ні Шаляговічаў, ні Лукашэнкаў. Трэба працаваць на Адраджэнне, пашыраць у паўсядзённым ужытку дзяржаўную беларускую мову, чаго, на правялікі жаль, не скажаш у адносінах да самога пана галоўнага рэдактара: з чытачамі вясковай газеты ён «размаўляе» па-расейску. Ды і ў самой газеце да 70 працэнтаў матэрыялаў друкуецца на гэтай мове, бо яна выдаецца, як сказана на першай старонцы, «па-беларуску і па-руску»... Але ж у вёсцы жывуць і палякі, і ўкраінцы, то ўжо, можа, яшчэ дабавіць дзве мовы ў «моўны вінегрэт»? У Беларусі і так на расейскай мове для вясковых жыхароў выдаецца ажно штодзённая газета «Белорусская нива», то было б больш справядліва, калі б прагрэсіўная «Новая зямля» выдавалася ўсё ж толькі па-беларуску.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

---

**Мікола Мятліцкі — вядомы беларускі паэт. Вялікую чытацкую ўвагу выклікала яго кніга паэзіі «Палескі смутак». Наш субяседнік родам з вёскі Бабчын Хойніцкага раёна — адной з самых пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС мясцін. Наша з паэтам, прэзідэнтам фонду «Палескі смутак», гутарка — пра дабрачыннасць, пра тое, як могуць грамадства і, у прыватнасці, творчая інтэлігенцыя спрыяць вырашэнню чарнобыльскіх праблем.**

# «Век мой абраў тут сейбішча болю!»

**— Мікалай Міхайлавіч, а ці не зашмат сёння ўсялякіх фондаў, грамадскіх арганізацый з пазнакай «чарнобыльская дабрачыннасць»? У нас жа ёсць адпаведная дзяржаўная структура...**

— За ўсіх дабрадзеяў мне гаварыць цяжка. Таму лепш раскажу пра свой фонд. Разам з групай аднадумцаў я і наважыўся стварыць асаблівы фонд. У нашым статуце запісана: «Дабрачынны фонд... створаны дзеля таго, каб памяць тысяч чарнобыльскіх выгнаннікаў не страцілася на горкіх дарогах лёсу, а стала духоўным набыткам усіх наступных пакаленняў. Сёння, заўтра і заўсёды людзі пад небам Беларусі павінны ведаць усю неадназначную праўду пра самую жахлівую трагедыю — чарнобыльскую. Гэту праўду павінны пачуць і далёка ад нашай Айчыны, каб тое, што давялося зведаць палешукам, не паўтарылася ніколі. Беларуская творчая інтэлігенцыя гатова аддаць усе сілы духу дзеля такой высакароднай справы».

Наша галоўная мэта — дбаць пра пашырэнне грамадскай увагі да Чарнобыля, да людзей, якія пацярпелі ад катастрофы і яе наступстваў.

**— Раскажыце, калі ласка, пра канкрэтныя формы работы, якія ўжо сёння складаюць аснову дзейнасці фонду.**

— Сваю работу мы мяркуем пераважна праводзіць у чарнобыльскіх раёнах... Вось, напрыклад, у дні святкавання гадавіны вызвалення Хойніцкага раёна ад фашысцкіх захопнікаў правялі прэзентацыю фонду. У планах на будучыню — вялікі абсяг культурна-масавых мерапрыемстваў. Сёння нам і ў Хойніках, і ў іншых мясцінах пакрыўджана гавораць: «На правінцыю забыліся... А мы ж таксама хочам жыць паўнакроўна...»

**— Але ж на ўсё гэта патрэбны сродкі...**

— Сродкі фонду фарміруюцца з укладаў, узносаў прадпрымальнікаў, якія ў асноўным з'яўляюцца ўраджэнцамі Хойнікшчыны. Будзем рознымі накірункамі расказваць свету аб чарнобыльскай бядзе. Паверце, дагэтуль наша беларускае ўсведамленне памераў трагедыі мала зразумелае, а то і зусім невядомае ў нечарнобыльскім свеце.

З часам збіраемся стварыць Чарнобыльскі музей. Экспанатаў хапае. Дадайце, што жывыя яшчэ сведкі чарнобыльскага выбуху. Запісаць іх успаміны, зняць на плёнку... Вось аб чым трэба апекавацца.

**Фонд «Палескі смутак», які ўзначаліў паэт Мікола Мятліцкі, сёння знаходзіцца на пачатку сваёй дарогі. Будзем спадзявацца, што карысць ад яго працы будзе. Ужо адно тое, што ўвагай і клопатам людзей, якія трапілі ў ядзернае ярмо, апякуюцца многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, усяляе надзею і веру. Аб пякучых праблемах чарнобыльскага краю напісаны і гэтыя праніклівыя радкі Міколы Мятліцкага:**

**Кут мой забыты,**
**безабаронны**
**Зорыш пагаслых крыніц**
**вачыма.**
**Некаму ты —**
**Ачужэлая зона,**
**Сэрцу майму ты да скону —**
**Радзіма!**

**Гутарыў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

---

РЭХА

# дык праз акно

**русскому населению». Каб надаць ідэі саліднасць і важкасць, а можа, і дзеля таго, каб дабавіць у «Народны рух Беларусі» дваццаць сёмую і дваццаць восьмую адзінкі, аб'яўляецца аб стварэнні «Русской общины» (гарадскія прадпрымальнікі кампрадорскага накірунку), «движения по защите прав человека» (ячэйка, звязаная з Расіяй, ЗША, Англіяй), якія разам са Славянскім Саборам падтрымліваюць ідэю рускага універсітэта і цэнтра славянскай (!?) культуры. Тут міжволі мне прыгадваецца адна віцебская настаўніца гісторыі, якая тры гады таму ў час экскурсіі па гораду растлумачвала васьмікласнікам, што ў «нас» было хрысціянства, а ў «іх» каталіцызм.**

**Што кідаецца ў вочы ў дзейнасці віцебскіх «славян» і панславісцкіх патрыётаў, дык гэта тое, што яны ніколі не хавалі, а заўсёды прапагандуюць свае (але ж ці свае?) прарасійскія ідэі. Па-другое, яны не хаваюць і нянавісці да Беларускай дзяржавы, непрыняцця яе. Яна ж, бачыце, аказваецца ўвогуле: «...представляет собой результат циничного попрания воли народа и фактически незаконно» (!?) («Віцьбічы», С. Голубев. «Почем опиум для народа?»). Па-трэцяе, ускормленая з царскіх часоў і падмацаваная сталінскай ідэалогіяй выключнасці «першых сярод роўных» пагардлівасць, зняважлівае стаўленне да беларусаў, іх культуры і мовы: «...непревзойденным в мировой истории останется ваше крупнейшее творческое достижение — перевод мультфильмов на белорусский язык, предельно красноречивый показатель вашего нравственно-интеллектуального уровня и творческого потенциала...» («Віцьбічы», С. Голубев. «Кто нас учит Родину любить?»)**

**І зусім не высакароднымі пачуццямі кіруюцца Е. Сямёнаў і М. Багданкевіч з Віцебскага педінстытута, калі імкнуцца раскруціць ідэю стварэння славянскага цэнтра з матэматычна-праваслаўным (?!) накірункам (як гэта ўжо прапанавалася раней), а ўсё той жа ідэяй сумнавядомага М. Мураўёва-вешальніка.**

**Беларуская мова — адна з галоўных мішэняў «ініцыятывы» русафілаў з Віцебскага педінстытута (педінстытут пачаў працаваць у адпаведнасці з законамі аб мовах і адукацыі).**

**«Не является ли причиной нежелание преподавать на белорусском языке? — пытаецца рэдактар газеты «Віцьбічы» ў фізіка А. Макеева, які рыхтуе будучых настаўнікаў для беларускіх школ, у тым ліку і вясковых.**

**— И это тоже причина — ответ на насилие»,— адказвае А. Макееў.**

**Такім чынам, выкананне законаў Беларусі для грамадзян славянасабораўскай арыентацыі не абавязковае? Дык чые яны грамадзяне?**

**А што мясцовыя ўлады? На сесіі гарадской рады пытанне аб рускім універсітэце не было, праўда, падтрымана. Пакуль што. Але асабіста старшыня гарвыканкама сп. В. Невушаў выказаўся за дзяржаўнае двухмоўе і двайное грамадзянства для рускіх. Праўда, гэта было яшчэ да адкрыцця апошняй сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі. У гарадской газеце «Віцьбічы» (3.03.94 г.) сп. В. Невушаў на пытанне: «Вы поддерживаете идею открытия в Витебске русского университета?» адказаў: «Да». І гэта, верагодна, шчыра, калі ўлічваць усё, што робіцца ў абарону не толькі рускай, а і беларускай мовы і культуры. Пакуль што больш чым з сарака школ у горадзе няма яшчэ ні адной, якая б поўнасцю працавала на беларускай мове. Дастаткова прыгадаць і такі красамоўны факт, калі на працягу трох гадоў, нягледзячы на неаднаразовыя захады, Таварыства беларускай мовы не мае ў горадзе ніякага прытулку, хоць наконт гэтага існуе Пастанова СМ № 56 (19.02.91 г.), падпісаная В. Кебічам.**

**Чаго трэба чакаць цяпер, пасля прыняцця 17-га артыкула Канстытуцыі? Пасля гэтага трэба чакаць новай хвалі па выкананні праграмы ідэалагічнай агрэсіі супраць незалежнай Беларусі. Людзі, выхаваныя на ісцінах ВПШ, відаць, ці не безнадзейна хворыя на звыклую ляноту розуму, не здольныя крытычна глянуць у мінулае. А некаторыя свядома паставілі сваёй мэтай знішчэнне дзяржаўнасці. Таму зараз яны, згодна са сваімі поглядамі, зноў пойдуць на штурм беларускай незалежнасці. Не з аднаго боку, дык з іншага. І будзе гэта спалучацца з надыходзячымі выбарамі.**

**Так што рыхтуйся, Беларусь, у чарговы раз абараняць сваю годнасць і права на існаванне.**

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

*Імпрэзы*

# Маладая Белавежа

24 сакавіка ў гасцінным Доме літаратара г. Менска адбылася сустрэча з прадстаўнікамі літаратурна-мастацкага аб'яднання Беласточчыны «Белавежа». Аб'яднанне ўзнікла ў 1958 г. з аматарскай суполкі пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Польшчы і вырасла ў самастойную творчую арганізацыю высокапрафесійных літаратараў, якая сёння налічвае больш за сто літаратурных кніжак, выдадзеных не толькі на беларускай мове, а і ў перакладзе на англійскую, італьянскую, нарвежскую, фінскую, польскую, рускую і ўкраінскую мовы. Чытачы Беларусі ў свой час мелі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю суайчыннікаў праз беларускі штотыднёвік «Ніва», які выдаецца ў Беластоку за грошы польскай дзяржавы. У 1973 г. у Менску быў выдадзены першы калектыўны зборнік белавежцаў «Літаратурная Беласточчына». Затым выйшлі ў свет кнігі асобных аўтараў: Віктара Шведа, Сакрата Яновіча, Алеся Дамскага, Надзеі Артымовіч, Міхася Шырковіча, Міколы Гайдука, Віктара Петручука і іншых.

Звесткі пра белавежцаў занялі трывалае месца ў беларускіх энцыклапедычных выданнях, а ў новай гісторыі беларускай літаратуры, якая пішацца ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук РБ, іх творчасці адведзены асобны раздзел. Як адзначыў у прывітальным слове Аляксей Гардзіцкі, цяпер, калі творчасць беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны ўсё больш інтэгруецца ў агульны працэс беларускай літаратуры, яны для нас ужо не госці, не суседзі, а творчыя паплечнікі, родныя браты. Грамадства пачынае ўсведамляць, што як іх творчасць, так і творчасць беларускіх пісьменнікаў далёкага замежжа — з'ява не асобных мясцін ці рэгіёнаў, а наша агульная літаратура, і што ўсе мы — адзін народ і наш лёс адзіны.

Ян Максімюк ад імя «Белавежы» гаварыў пра адметнасць літаратуры Беласточчыны, якая абумоўлена, на яго думку, тым, што кожны пісьменнік цесна звязаны са сваёй «малой бацькаўшчынай», з вобліку якой ён і «піша жыццё». Так, напрыклад, Сакрат Яновіч увесь час стварае па сутнасці адну аповесць — пра родныя Крынкі. Максімюк падкрэсліў: «Для мяне Беларусь пачалася і фактычна замыкаецца на тым абшары, на якім я нарадзіўся і вырас, на маёй роднай вёсцы, дзе я жыў у маленстве і доўга не ведаў, што жыву ў Польшчы, у якой людзі размаўляюць на іншай мове, чым я. «Белавежа» ёсць аб'яднанне вакол супольнасцей вёскі, і ў кожнага з нас ёсць такое пачуццё сямейна-рэгіянальнай прыналежнасці да сваёй малой бацькаўшчыны».



НА ЗДЫМКУ: пісьменнікі Міра Лукша, Ян Максімюк, Янка Брыль, Сакрат Яновіч і пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Уладзімір Сянько.

**Фота У. ПАНАДЫ.**

Пра адметнасць творчага мікраклімату і літаратуры Беласточчыны гаварыў і Уладзімір Гніламёдаў. Ён прызнаўся, што яго заўсёды цягнула да гэтага кутка Беларусі з яго рэгіянальнай літаратурай і штотыднёвікам «Ніва», як да чагосьці загадкавага і цікавага,— магчыма, таму што сам паходзіць з памежнага Камянецкага раёна і таму блізкі па менталітэту, па строю душы, па нейкаму этналагічнаму стану да белавежцаў. «Цяпер я разумею,— адзначыў прамоўца,— што наша літаратура больш сацыяльнага замесу, а ў творчасці белавежцаў гучыць вельмі шчырая, непасрэдная і наіўная чалавечая душа — душа простага чалавека і селяніна. Гэта можна адчуць хоць бы па творчасці таго ж Сакрата Яновіча, які часам хоць і прытвараецца пісьменнікам больш нізавога плана, але ў сапраўднасці з'яўляецца паэтам у прозе. Яго лаканічныя імпрэсіі і апавяданні прасякнуты паэзіяй, якая ўзвышае чалавека, робіць высакародным яго позірк. Тое ж можна сказаць і пра нарысы незабыўнага Віктара Рубчыка, і пра творы самародкаў, вясковых дзядзькоў, якія друкавала «Ніва», пра цікавыя ўспаміны КПЗБоўцаў. Гэту лінію Белавежскай беларускай літаратуры падхапіла Міра Лукша, спалучыўшы сучасную журналісцка-пісьменніцкую тэхніку з вельмі сталай светапоглядней думкай, што вельмі ўпрыгожвае яе кнігі пра цікавыя, пакручастыя чалавечыя лёсы. А што можа быць цікавей за чалавечы лёс, за чалавека нашага XX стагоддзя? Прыемна, што ў творах белавежцаў адчуваецца прысутнасць гэтага чалавека, праўдзіва напісанага...»

Алесь Разанаў, які выязджаў за мяжу на семінар белавежцаў і які надзвычай цікавіцца творчасцю аб'яднання, сказаў: «Беласточчына — сапраўды куток са сваім мікраклiматам і сваёй літаратурай. Ёсць як бы дзве беларускія літаратуры: беларуская і бела-вежская. Сапраўды, там ёсць той настрой і тыя флюіды, якіх тут, на гэтых скразняках, і не хапае, або якія знікаюць, або якія не хочуць тут з'яўляцца і аб'яўляцца. Я ведаю, што часопіс «Неман» дзесьці на 8-ы ці 9-ы нумар рыхтуе істотную падборку твораў белавежцаў. Я таксама ў гэтым прымаў удзел — пісаў прадмову да падборкі вершаў Надзеі Артымовіч. Мне гэта было цікава рабіць, таму што Надзея — вельмі глыбокая паэтка, з такой паэтыкай, якая недзе хаваецца, растворaная ў самім тэксце. У яе словы рухаюцца навобмацак, але не хочуць аб'яўляцца на паверхні, таму што на паверхні дзейнічаюць іншыя правілы, а там якраз, у гэтым унутраным тэксце, ва ўнутранай прасторы штосьці адбываецца, сугучнае прасторы самой Беласточчыны, адкуль яна родам. Яе любімыя колеры — белы і блакітны, яе радзіма — Бельск, яе сон — аднакрылы, а таму больш крылаты, чым двухкрылы, які ва ўсякім разе залежыць ад зямлі, ад зямнога прыцягнення...»

Вызначыўшы такім чынам устойлівыя параметры і каардынаты паэзіі Надзеі Артымовіч, Алесь Разанаў выказаў спадзяванне, што калі-небудзь стане ўкладальнікам кнігі паэткі, якая будзе выдавацца на Беласточчыне, і напіша каментарыі, якія дапамогуць чытачу ўвайсці ў прастору твораў, лепш іх зразумець.

Цікава прагучала выступленне старэйшыны беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» Сакрата Яновіча. Ён прачытаў свае гумарэскі і расказаў пра выдавецкія справы пісьменнікаў Беласточчыны, якія выдаюць цяпер творы ў асноўным на сродкі спонсараў-«капіталістаў». Працуючы ў беларускім штотыднёвіку «Ніва» і Беларускім грамадска-культурным таварыстве, Сакрат Яновіч шмат спрычыніўся да адраджэння нацыянальнай культуры і выхавання творчай моладзі. Дэбютаваў на старонках «Нівы» ў 1956 г. Выдаў каля двух дзесяткаў кніжак прозы — лірычных мініяцюр, апавяданняў, навел, аповесцей, эсэ, сцэнічных твораў, даследаванняў — на роднай мове і на замежных. Апошнюю яго кнігу — «Доўгая смерць Крынак»,— выдадзеную на сродкі фірмы «Амега» пад рэдакцыяй Яна Максімюка, удзельнікі вечарыны змаглі набыць у фае Дома літаратара. Дадам, што яшчэ пры жыцці Сталіна Яновіч заснаваў падпольны «Саюз беларускіх патрыётаў», а ў 1980 г. стаў адным з арганізатараў таксама тайнага «Беларускага незалежнага выдавецтва», якое праіснавала да заняпаду савецкай улады ў Польшчы. На пачатку 1990 г. Яновіч узначаліў у Беластоку яшчэ адну арганізацыю — «Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне».

Удзельнікі вечарыны сышліся на думцы, што творчая дзейнасць аб'яднання «Белавежа» спрыяе працэсу адраджэння ўсёй беларускай культуры і літаратуры, робіць гэты працэс больш мэтанакіраваным.

Прыхарашыла вечар студэнтка ВНУ г. Менска Марыся Аліфер з Бельска. Яна бліскуча выступіла ў міні-спектаклі: праспявала некалькі песень і прачытала на памяць некалькі вершаваных і празаічных твораў беластоцкіх аўтараў, у тым ліку і свой. Яе сяброўкі падказалі мне, што Марыся займаецца ў тэатры «Жывое слова» (мастацкі кіраўнік Юры Чарэнка), піша вершы, а таксама піша музыку на свае і чужыя тэксты. Выступілі таксама дзеці з Менскага творчага цэнтра «Вячоркі», якія часта выступаюць у беларускіх школах на Беласточчыне і супрацоўнічаюць з Мірай Лукшай — рэдактарам дзіцячай старонкі «Зорка» ў газеце «Ніва».

**Ірына КРЭНЬ.**

*РЭХА*

# *БЕЛАРУСЫ ЗА ДУНАЕМ?*

У «Нашым слове» з'явілася публікацыя, перадрукоўка з Беластоцкага «Часопіса», дзе паведамляюцца «сенсацыйныя» звесткі пра беларусаў, што нібы жывуць у Югаславіі і, мала таго, маюць свае школы, газету, часопісы.

Я шмат гадоў вывучаю мовы паўднёвых славян і, прызнаюся, быў здзіўлены. Але не такой нібы знаходкай, «сенсацыяй». Этнічная сітуацыя ў Югаславіі добра вядома ўсяму навуковаму свету. Аўтара нататкі падманула гэты тэрмін, і ён падумаў, што гэта тыя ж самыя русіны, пра якіх як жыхароў Менскай губерні некалі гаварыў Адам Міцкевіч у сваіх лекцыях па гісторыі славянскіх літаратур.

Тут тыповая тэрміналагічная блытаніна: тэрмін русіны — гэта старая назва жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, якая аб'ядноўвала часткова заходніх беларусаў і, пераважна, заходніх украінцаў. Цяпер цяжка вызначыць, ці гэта саманазва, ці такую назву далі ім заходнія суседзі. Яна існавала адначасова з іншымі назвамі жыхароў ВКЛ і, паўтараю, не адносіцца толькі да беларусаў. Гэты факт устаноўлены.

А ў артыкуле «Часопіса» гутарка ідзе пра так званых югаславарусінаў, мова якіх называецца па-рознаму. Самі яны называюць яе — руская мова, суседзі — русінскі рускі язык (па серба-харвацку — «русінскі язік»). А даследчыкі-мовазнаўцы часцей за ўсё выкарыстоўваюць тэрмін бачваньскі русінскі язік (бачская русінская мова, ад Бачка — рэгіён у аўтаномным краі Ваяводзіна, дзе найбольш кампактна жывуць русіны). Даследчык гэтай мовы Аляксандр Дулічэнка называе яе югаслава-русінскай мовай.

Хто ж такія югаслаўскія русіны? Як бы нам не хацелася, яны не маюць прамых адносін да беларусаў. Фактычна, гэта перасяленцы, і вядома, што ў 40-я гады XVIII стагоддзя яны перасяліліся з Усходняй Славакіі на гэтую тэрыторыю Аўстра-Венгерскай імперыі, таму што там былі пэўныя прывілеі і шмат незанятай зямлі. Русіны лічаць сябе адгалінаваннем славян з Закарпацця, гэта значыць, бліжэй за ўсё да так званых русінаў-украінцаў былой Угорскай Русі.

На новым месцы русіны ўтварылі некалькі кампактных астравоў. Адзін з іх — згаданы ўжо бачскі, дзе ёсць гарадок Рускі Керэстур. Там і выдаюцца тыя газеты, пра якія пісаў аўтар нататкі ў «Часопісе», там існуе гімназія, але выкладанне вядзецца не па-беларуску, а па-русінску. У Навасадскім універсітэце (Новы Сад — цэнтр Ваяводзіны) ёсць, прынамсі, яшчэ нядаўна была, кафедра русінскай мовы і літаратуры, якая штогод набірала студэнтаў.

Што гэта за мова і чаму яе называюць русінскай, а не ўсходне-славацкай, русінска-ўкраінскай ці яшчэ інакш? Справа ў тым, што русіны паходзяць з зоны пераходнай, змешанай — славацка-ўкраінскай або славацка-закарпацкай, дзе сапраўды сустракаюцца некаторыя заходнеславянскія і ўсходнеславянскія моўныя рысы. Згаданы Аляксандр Дулічэнка напісаў дысертацыю па русінскай мове, у якой паказаў яе асаблівасці, прыкладам, двухрэфлекснасць (г. зн. што адны і тыя ж зыходныя праславянскія гукі рэалізуюцца ў гэтай мове па-рознаму, некаторыя паводле заходнеславянскіх, а іншыя паводле ўсходнеславянскіх гукавых законаў. Прыкладам, *ноц* — наша *ноч,* але *помочи* — наша *памагчы.* Ёсць адрозненні і ў галосных гуках, а таксама — няпоўна- і поўнагалоссе: *крава* (карова) і *норовит ше* (расійскае *нравиться*).

**Генадзь ЦЫХУН.**

## Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

### *СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ*

ПАДПАРАДКАВАННЕ (стан залежнасці ад каго-, чаго-н.) — *Мы — моладзь новая. Нам трэба ўмець думаць. Вольна, па-свойму. Не як у арміі, дзе толькі дысцыпліна і падпарадкаванне* (Грамовіч), ПАДНАЧАЛЕННЕ [*Віктар:*] *Досыць з нас рабства... Братэрства, так, але не падначаленне! Роўнасць, і ні на волас ніжэй!* (Караткевіч), ПАСЛУШЭНСТВА (беспярэчнае падпарадкаванне каму-н.) *Душа Яўгена Данілавіча адразу памякчэла, калі ён убачыў на шырокім твары Лапыра пакору і паслушэнства* (Паслядовіч), ПАСЛУХМЯНАСЦЬ *Міхал не баязлівы, не слабасцю натуры вытлумачвае паэт паслухмянасць, пакорлівасць Міхала, які толькі аднойчы адважыўся агрызнуцца ляснічаму* (Навуменка), ПАСЛУХМЯНСТВА *Ад... [Сымона] цяжэй было дабіцца паслухмянства. Усё часцей і часцей ён пачаў знікаць без дазволу* (Мікуліч), СЛУХМЯНАСЦЬ *Цімафей Міронавіч выйшаў з хаты з пакорнай слухмянасцю чалавека, які з мілай ахвотаю зробіць усё, што ад яго патрабуюць* (Зарэцкі).

ПАДПАРАДКАВАЦЦА *каму* (апынуцца ў залежнасці, пад уладай каго-, чаго-н.; стаць паслухмяным выканаўцам чыёй-н. волі) *Станіслаў Вярбіцкі поўнасцю падпарадкаваўся новаму механіку і без яго загаду ні за што не браўся* (Чарнышэвіч), ПАДНАЧАЛІЦЦА *каму* [*Тоўхарт*] *тлумачыў Эльзе пра ўсё, што траплялася па дарозе, і ёй было прыемна падначаліцца ўладзе свайго мужа* (Чорны), ПАКАРЫЦЦА *каму* [*Марыля:*] *А трэ' было пакарыцца! Давалі хату, службу давалі, добра можна было прыстроіцца* (Купала). *Налівайка ганарыўся тутэйшымі людзьмі, што... яны не пакарыліся і не сталі на калені* (Гурскі), СКАРЫЦЦА *каму і перад кім-чым;* разм. *Бяда, відаць, зламала Кудзіна, і ён крыху скарыўся перад абставінамі і зараз чуйна прыслухоўваўся да незнаёмага адчування, якое прабівалася недзе глыбока ў душы* (Радкевіч).— Незак.: **Падпарадкóўвацца, падначáльвацца, пакарáцца, скарáцца.**

ПАДПАРАДКАВАЦЬ *каго-што каму-чаму* (узяць пад сваю ўладу каго-, што-н., прымусіць слухацца каго-н.; прымусіць дзейнічаць адпаведна чаму-н) *Дзед Талаш палічыў сваім абавязкам не пакідаць Букрэя і партызан, і ён цвёрда пастанавіў падпарадкаваць свае асабістыя інтарэсы агульным* (Колас), ПАДНАЧАЛІЦЬ *каго-што каму-чаму* [*Ермакоў*], *хоць і быў упарты і самалюбівы, умеў аднак падначаліць свае жаданні развагам* (Мележ), ПАДНЯВОЛІЦЬ *каго-што каму-чаму* (зрабіць каго-н. паднявольным, падначаленым каму-н.; прымусіць дзейнічаць адпаведна чаму-н.) *Наша зямля ўкрыта курганамі і магіламі тых, хто калі-небудзь імкнуўся заўладаць ёю і падняволіць сабе наш народ* (Купала), ЗАНЯВОЛІЦЬ *каго-што каму-чаму* (падпарадкаваць сваёй уладзе, паставіць у залежнае становішча) *Не заняволяць толькі сэрца, Яно з народам прагне жыць* (Глебка).— Незак.: **Падпарадкóўваць, падначáльваць, нявóліць, занявóльваць.**

ПАДПАСАК (памочнік пастуха, звычайна падлетак) *Наперадзе статка ішоў пастух, а ззаду — падпасак* (Гурскі), ПАДПАСВІЧ *Каля скацінкі падпасвіч з жалейкаю Ходзіць навокал ды йграе сабе* (Купала).

ПАДПЕРАЗАЦЦА (надзець на сябе пояс, папругу і пад., сцягнуць на сабе адзенне поясам, папругай і пад.) *Васіль Бусыга расчасаў акуратна чорную бараду, адзеў кажух чорнага вырабу, дагнаны да стану, падперазаўся шырокім пышным поясам* (Колас), АПЕРАЗАЦЦА *Аперазалася крэпасць патранташам тугім Мухаўца* [ужыта ў пераносным сэнсе].— *Хопіць патронаў выстаяць да канца!* (Барадулін), ПЕРАПЕРАЗАЦЦА разм. *Пераперазацца ручніком*, ПЕРАЦЯГНУЦЦА *Перацягнуцца поясам.— А хто ты такі? — запытаў афіцэр, які паспеў начапіць пагоны і крыж-накрых перацягнуцца рамянямі* (Грахоўскі).— Незак.: **Падпярáзвацца, апярáзвацца, перапяразвацца, перацягвацца.**

ПАДПЕРАЗАЦЬ (сцягнуць адзенне на сабе поясам, папругай і пад., надзець на каго-н. пояс, папругу і пад.) *Я недаказаў таго, што думаў, як дзед хуценька падперазаў кажух і шмаргануў з пакоя...* (Сабаленка), АПЕРАЗАЦЬ *Першы прамень сонца залатой істужкай аперазаў вузлаватыя карэнні* [у пераносным сэнсе], ПЕРАПЕРАЗАЦЬ *Туга пераперазаць стан папругаю.*— Незак.: **Падпярáзваць, апярáзваць, перапяразваць.**

ПАДПЕЧАК (месца, прастора пад печчу) *У падпечку зашамацела, залапатала, і на ўсю хату заспяваў певень* (Мурашка), ПАДПЕЧЧА *Хіма нарэзала сала на патэльню, паставіла яго на трыножніку перад чалеснікамі, дастала з падпечча сухіх трэсак* (Сабаленка).

ПАДПІЛЬНОЎВАЦЬ (высочваючы, хаваючыся, чакаць паяўлення каго-, чаго-н.) *Пакуль што яму дазвалялася толькі хадзіць са сваёй аднастволкай на выган і падпільноўваць там каршуна* (Ляўданскі), ПІЛЬНАВАЦЬ *Аднаго разу чатыры чалавекі па чарзе пільнавалі выдру шэсць тыдняў і не маглі злавіць* (Маўр), ПАДСЦЕРАГАЦЬ *У доўгім інстытуцкім калідоры перахапіў зяць. Нібы знарок падсцерагаў* (Шамякін), СЦЕРАГЧЫ *Ноччу і днём пільнаваў іх у жыце, чакаў за гумном, Каля дому ў густым канаплянні сцярог* (Куляшоў), ВЫСОЧВАЦЬ *Я перадыхнуў, паглядзеў ёй у вочы і загаварыў: — Паўла Гудок цябе высочваў. Ноччу* (Сіняўскі). *Аднак падазронасць у пана Ліцвінскага расла, ён не спускаў з мяне вачэй, высочваў горш за шпіка* (Адамчык), АСОЧВАЦЬ *Рыбу лавіў для панскага стала, асочваў берлагі мядзведжыя, ласіныя жыроўкі, перад тым як паны прыязджалі на паляванне* (Лужанін).— Закончанае трыванне: **Падпільнавáць, падсцерагчы́, вы́сачыць, асачы́ць.**— Параўнайце: В ы с о ч в а ц ь ('ісці па следу, шукаючы звера, птушку').

**УДАКЛАДНІМ**

## Знакі прыпынку пры сцвярджальных, сцвярджальна-пабуджальных, пытальных і адмоўных словах

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

1. Сцвярджальныя словы **так, але, ага,** сцвярджальна-пабуджальныя словы **ну, што ж, як жа,** пытальныя словы **што, як,** адмоўнае слова **не** і інш., якія знаходзяцца ў пачатку сказа, звычайна аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Так, жыццё кіруецца толькі да лепшага ва ўсім сваім глыбокім і шырокім змесце* (П. Кавалёў). *Ну, з такой барадой толькі ў начальніках хадзіць* (Кузьма Чорны).

**Заўвага.** Калі такія словы спалучаюцца з узмацняльнымі часціцамі, то яны аддзяляюцца коскай разам з імі, напр.: *О так, жыць трэба з розумам* (В. Каваль). *Ну вось, мы і сустрэліся* (М. Лынькоў).

Калі ўказаныя словы ўжываюцца ў ролі асобных нячленных сказаў, то пасля іх ставяцца знакі прыпынку, якія патрабаюцца зместам і інтанацыяй гэтых сказаў: *Так. Самі ведаем, што ружы нам не адразу ўсыплюць шлях* (П. Прыходзька). *Чаму позна прыехаў? Га?* (Цішка Гартны). *Як жа! У маёй хаце нешта робіцца, а я нічога не ведаю!* (Кузьма Чорны). *Што ж... Рэшатам ваду не пераносіш* (Б. Мікуліч).

2. У тых выпадках, калі сцвярджальныя, сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы паўтараюцца непасрэдна адно за другім, яны аддзяляюцца ад членаў сказа (і адно ад другога) пры дапамозе коскі: *Ну, ну, ніколі не трэба злавацца* (Янка Маўр). *Так, так, Матруна Іванаўна вучылася калісьці ў гімназіі* (М. Зарэцкі). *Не, не, ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць* (М. Лынькоў). Але: *Не, не паншчыны мы дзеці — рэвалюцыі сыны* (П. Трус), дзе пасля адмоўнага слова **не** размешчаны выказнік з адмоўем **не.**

3. Калі сцвярджальныя, сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы знаходзяцца ў сярэдзіне простага сказа, то яны выдзяляюцца коскамі з абодвух бакоў: *Разлівае тыя трэлі, ну, мудрэй за салаўя* (А. Русак). *Не загасне, не, ніколі светач праўды на зямлі* (М. Машара). *Сонца, унь, ужо высока над лесам стаіць* (Якуб Колас). *Касьбу, а як жа, мы ўжо закончылі* (М. Паслядовіч).

Але калі такія словы знаходзяцца паміж прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа, то пасля іх (у асноўным **ну**) ставіцца коска, а перад імі — той знак прыпынку, які абумоўлен зместам і інтанацыяй гэтых частак: *Неўзабаве пад акном узняўся адмысловы дом, ну, з чым яго нам параўнаць?* (П. Броўка). *Праз мост людзі праходзяць, фурманкі едуць... ну, легкавая машына яшчэ калі-нікалі праскочыць* (М. Лынькоў).

4. **Калі сцвярджальныя,** сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы знаходзяцца ў канцы сказа, то перад імі ставіцца коска, а пасля іх — той знак прыпынку, які патрабуецца зместам і інтанацыяй усяго сказа: *Урокі ўжо ўсе падрыхтаваны, але...* (Янка Маўр). *Цяпер ты пойдзеш спаць, так?* (І. Мележ). *Я цяжкасцей не баюся, не!* (І. Грамовіч). *Давайце лепш дружыць будзем, га?* (Я. Брыль). *Кнігу я ўжо прачытаў, як жа...* (У. Краўчанка). *Нічога больш не трэба, ага...* (Кузьма Чорны).

5. Калі сцвярджальныя, сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы суправаджаюцца ўзмоцненай эмацыянальнай афарбоўкай і выдзяляюцца лагічна, то яны аддзяляюцца ад членаў сказа пры дапамозе працяжніка: *Не — назад няма дарогі* (Якуб Колас). *Ну вось — і мы з табою дома!* (П. Глебка). *Але што ж — каранямі ўраслі мы ў гэту гліну, пясок і падзол* (Максім Танк). *Я не хлусіў ніколі — не!* (А. Куляшоў). *Я стаміўся — так. Аднак сіл у мяне яшчэ стае, маладосць не мінула* (Т. Хадкевіч).

**Заўвага.** Пры большай паўзе і аслабленай сувязі сцвярджальных, сцвярджальна-пабуджальных, пытальных і адмоўных слоў з астатняй часткай сказа сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Што ж,— да лесу рукой падаць!* (М. Лынькоў). *Дык на,— з гэтага нічога не будзе* (З. Бядуля). *Вось гэта дык метад,— але!* (Кандрат Крапіва). *Куды сунешся,— га?!* (Кузьма Чорны).

*Хачу ведаць*

## *«Увесь горад піша...»*

**Шаноўная рэдакцыя газеты «Наша слова»! У сярэдняй школе № 3 г. Салігорска, дзе я працую настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, узнікла спрэчка наконт напісання дат.**

**У Менскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Горкага, які я закончыў у 1993 годзе, такія спецыялісты, як А. К. Юрэвіч, М. Г. Яленскі, З. М. Сазоненка вучылі пісаць даты згодна з правілам дапасавання парадкавых лічэбнікаў да назоўнікаў, напрыклад: першага верасня, пятнаццатага лютага і г. д. А ў вышэйназванай школе мне было заяўлена, што пісаць даты трэба так, як прапануецца ў падручніку М. С. Яўневіча і У. К. Андрэенкі «Беларуская мова. 6—7 кл.», а іменна: першае верасня, пятнаццатае лютага і г. д. (Гэта значыць, насуперак правілу). І прапанавалі забыць тое, аб чым гаварылі моваведы з МДПІ, бо «здесь Солигорск, и весь город пишет так, как даёт учебник».**

**Таму я вырашыў звярнуцца да Таварыства беларускай мовы як да арбітра. Дайце, калі ласка, дакладны адказ: пісаць даты трэба згодна з правілам ці як у падручніку для 6—7 класаў.**

**Мне аднаму цяжка супрацьстаяць усёй гэтай бюракратыі ад адукацыі. Таму спадзяюся, што Таварыства беларускай мовы стане маім саюзнікам у справе дэрусіфікацыі беларускай мовы.**

**З павагай**
**Дзмітрый Яўгенавіч АБРАМЫЧАЎ,**
**настаўнік.**

**Ад рэдакцыі. Мы** пагарталі зборнік «Беларуская лінгвістыка» (Выпуск 19, Мн., 1981), дзе надрукаваны артыкул Г. У. Арашонкавай «Праграма радыёперадач на дваццатае верасня ці Праграма радыёперадач на дваццатага верасня?»

Вядомая даследчыца звярнулася да гістарычных дакументаў, дзе знайшла адпрацаваныя нормы. «У старабеларускай мове каляндарнае чысло перадавалася пры дапамозе ўстойлівага звароту, у якім назва месяца стаяла звычайна ў прэпазіцыі і мела форму роднага склону: *Писань листъ у Полотску, лета от Рожества Христова тисячного трисотного осмьдесятного третего месяца мая пятого дня* (Акты Западной Руси); *Писан у Вилни лета Божего нароженя тисеча пятьсот шестдесять третего месеца июля семого дня* (Статут ВКЛ 1566); *уступилемъ въ том року 1577 месеца февраля десятого дня в малжество; зворотившисе до Ляхович дня 15 стычня, року 1593; Ажъ ей привилей выдано шостого дня чирвца въ ономъ же року 1569* (Дзённік Ф. Еўлашоўскага); *Того ж року 1601 месеца октобра десятого дня целую неделю снегъ силный и гвалтовный ишолъ* (Баркулабаўскі летапіс)».

Як бачым, усё лагічна дапасавана, няма ніводнага лішняга слова. А вось «у сучаснай беларускай літаратурнай мове для абазначэння даты ўжываюцца парадкавыя лічэбнікі ў спалучэнні з назоўнікам *чысло* ў назоўным склоне або з назвай месяца ў родным склоне: *пятае чысло, пятае верасня.* Такія канструкцыі ўтварыліся шляхам скарачэння словазлучэнняў тыпу *пятае чысло месяца верасня».*

Мяркуем, што няма патрэбы тлумачыць, навошта трэба было мяняць беларускую форму лічэбнікаў. У артыкуле Г. У. Арашонкавай можна прачытаць пра некаторыя матывы. «Форма так званага назоўнага склону даты ўжываецца ў назвах рэвалюцыйных свят, знамянальных дат: *Першае мая — Дзень класавай салідарнасці працоўных усяго свету; Восьмае сакавіка — Міжнародны жаночы дзень».*

Што да канкрэтнага пытання настаўніка, то ў згаданым артыкуле напісана: «Форму роднага склону мае лічэбнік і ў словазлучэннях, якія з'яўляюцца сказам з эліптаванай (скарочанай — *Рэд.)* часткай. Параўнайце: *Дзесятага верасня. Дамашняе сачыненне* і *Дамашняе сачыненне, напісанае дзесятага верасня».* Але насуперак сказанаму Ганна Уладзіміраўна ніжэй напісала: «Словазлучэнні тыпу *на дваццатага верасня* з'явіліся ў выніку апушчэння **слова** *чысло* і памылковага дапасавання лічэбніка ў родным склоне да назвы месяца».

Не лішнім будзе нагадаць, што ў беларускай народнай мове парадкавыя лічэбнікі ў словазлучэннях тыпу *першага верасня, дваццаць пятага сакавіка* менавіта ў такой форме (лічэбнік у родным склоне) бытуюць паўсюдна на Беларусі.

**З. С.**

*Абмяркоўваем «Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы»*

# Не ўсе—кансерватары...

Азнаёміліся са зместам дакумента Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы.

Удзел у абмеркаванні прынялі настаўнікі-пенсіянеры «Ганна і Людміла Васілеўскія, былыя выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры, аўтар гэтага допісу, былая выкладчыца рускай мовы і літаратуры (зараз вяду ўрокі беларускай мовы і літаратуры ў 7 класе), а таксама дырэктар Галіна Коршун, настаўнікі і вучні Кудавіцкай базавай школы і вырашылі:

1. Аднагалосна пагадзіцца з Камісіяй па пунктах 2—12;

2. Па правапісу змякчальнага мяккага знака мы выбралі варыянт «б» як самы прымальны для выкарыстання і больш мілагучны — прыбліжаны да народнай мовы.

Уважліва сачылі за абмеркаваннем у перыядычных выданнях удасканаленага правапісу. Поўнасцю падтрымліваем Пастанову Гродзенскай рады ТБМ наконт прапаноў Камісіі («Н.С.», № 10).

У асноўным правільна разважае ў «Настаўніцкай газеце» С. Адамовіч. Толькі з крытыкай п. 8 і 10 мы не згодны. Артыкул філолага з Украіны П. Капчыка «Пісаць гэтак, як вымаўляем» («Голас Радзімы», № 9) здзівіў нас, карэнных беларусаў, сваім «адкрыццём», што мы гаворым *«дзівяты», «дзісяты»*, а таму ён прапануе пакінуць хоць традыцыйнае *дзевяты, дзесяты*. Прабачце, паважаны, так у нас не вымаўляюць, а гавораць *дзявяты, дзясяты*. У астатнім згодны з паважаным філолагам.

Але, як сказаў Вінцук Вячорка ў гутарцы з І. Крэнь («Н.С.», № 12), «аргумэнт «у нас так не гавораць», не пераканаўчы», прымушае задумацца і аб асаблівасцях мовы розных рэгіёнаў Беларусі. З вялікай увагай прачытала гэта інтэрв'ю. Вельмі правільна, што правапіс павінен быць просты, з мінімумам выключэнняў, а часціца **ня** і прыназоўнік **бяз** не павінны нам рэзаць слых. Толькі я не зусім згодна са спадаром Вячоркам у нямэтазгоднасці вынясення пытання правапісу на масавае абмеркаванне і не думаю (карціць напісаць *ня думаю*), што большасць настаўнікаў — кансерватары, хоць, дарэчы, і няма іх выказванняў у друку.

Паколькі найбольш спрэчак і разыходжанняў у Камісіі выклікала пытанне аб правапісе мяккага знака, хочацца і мне, як гаворыцца, ўставіць свае пяць грошаў. Я «прайшла» праз усе віды правапісу. Вучылася па беларускім лемантары, надрукаваным лацінкай, дзе мяккасць зычных абазначалася надрадковым знакам мяккасці. Да школы ўжо ўмела чытаць па-руску (бацька выпісваў «Русское слово»), потым, пры першых Саветах, — па-беларуску кірыліцай, «наркомаўкай». У час акупацыі ў школах вучыліся па граматыцы Лёсіка, хутка засвоілі новы правапіс з ужываннем мяккага знака пры мяккіх зычных, затым зноў «наркомаўка». І з усяго гэтага хочацца зрабіць наступную выснову: можа мяккага знака і непатрэбна было б ужываць дзе трэба і дзе *ня трэба*, калі б людзі добра ўсвядомілі факт асіміляцыі, які заключаецца ў тым, што папярэднія зычныя пад уплывам наступных мяккіх зычных змякчаюцца: *шчас'це, с'вята, незалежнас'ць*.

А ўвогуле наша беларуская мова такая мілагучная, пявучая, звонкая і мяккая, як, мабыць, ні адна мова свету, хоць аднойчы адзін расіянін сказаў: «Этот красивый твердый язык», калі ў Маскве ішоў сінхронны пераклад нейкай беларускай п'есы. Дык чаму ж яна «твердая», калі ў нашай мове толькі дзве «твердые» — зацвярдзелыя **р** і **ч** — у адрозненне ад рускай?

І вось з гэтай нагоды хочацца выказаць сваё (і не толькі сваё) непрыманне вуснай мовы нашага радыё і тэлебачання са скажэннямі ўсякіх норм арфаэпіі. Некаторых дыктарак дык не хочацца слухаць, рэжа слых іх вымаўленне. Здаецца, яны здзекуюцца з роднай мовы. Проста беларускі эфір шыпіць, свісча, верашчыць, хоць вушы затыкай. Мала таго, што на расійскі манер вымаўляюць мяккія гукі [з'] і [с'], дык яшчэ і [ц'] і [дз'] — калі нават пасля іх і мяккі знак стаіць — у іх (дыктараў) цвёрдыя. У «Калыханцы» нават мяккія галосныя — цвёрдыя — *«казкі ўсэ, цоплы дзэнь, сыні цэнь»*. Зрабіце, калі ласка, падарожжа па Прынямонні і паслухайце, як люд беларускі вясковы гамоніць. Ці прыслухайцеся да вымаўлення паважанай усімі намі беларускай артысткі Таццяны Мархель. Вось гэта дык вымаўленне! З замілаваннем хочацца слухаць!

**Надзея РАМАНЧЫК,**
**настаўніца.**
**в. Кудавічы,**
**Навагрудскі р-н.**

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

*Сымон БАРЫС*

# Як у нас клічуць?

## *Мужчынскія імёны*

*(Працяг.)*

**Валадар.** Володарь (слав.). Вытв.: Валодзя, Вова. Імя па бацьку — Валадарыч, Валадараўна.

**Валянцін.** Валентин (лац.) — дужы. Вытв.: Валя, Валік, Валічак, Валёк, Валёчак, Валент. Імяніны: пр. 7.05; 19.07; 12.08; кат. 14.02. Імя па бацьку — Валянцінавіч, Валянцінаўна.

**Вальдамар.** Вальдемар (лац.) — той, які слаўна ўладарыць. Вытв.: Вальдзісь. Імяніны: кат. 5.05; 11.12. Імя па бацьку — Вальдамаравіч, Вальдамараўна.

**Вайніслаў.** Войнислав (слав.) — той, хто дабыў славу на вайне. Вытв.: Воясь, Воюсь, Войка, Вайчук, Славук, Воюш. Імя па бацьку — Вайніслававіч, Вайніславаўна і Вайніславіч, Вайніслаўна.

**Варнава.** Варнава (яўр.) — сын суцяшэння. Вытв.: Варнавік, Варнаўка. Імяніны: пр. 17.01; 24.06; кат. 11.06. Імя па бацьку — Варнававіч, Варнаваўна.

**Варлам,** Варламей. Варфоломей (яўр.) — сын Таламея. Вытв.: Варлук, Варлась. Імяніны: пр. 5.05; 24.06; 13.07; 7.09; кат. 24.08; 5.10; 11.11. Імя па бацьку — Варламавіч. Варламаўна і Варламеевіч, Варламееўна.

**Васіль,** Базыль. Василий (грэч.) — царскі. Вытв.: Васілёк, Васілёчак, Васілік, Васілька, Васілёчка, Вася, Васёк, Васенька; Васёчак, Васік, Васька, Васюня, Васюта, Васюха, Васючок, Васюн, Васютка, Васюньчык. Імяніны: пр. 14.01; 12.02, усяго звыш 20 разоў; кат. 2.01; 15.04; 20.05; 14.06. Імя па бацьку — Васілевіч, Васілеўна і Базылевіч, Базылеўна.

**Вацлаў.** Вецеслав (слав.) — той, хто ўвенчаны славай. Вытв.: Вацік, Вацюк, Вацька, Вацусь, Вацюш, Вацаш. Імяніны: кат. 4, 15.04; 28.09. Імя па бацьку — Вацлававіч, Вацлаваўна.

**Вадзіслаў.** Вадислав (слав.) — той, хто кіруе славай. Вытв.: Вадзісь, Вадзісік, Вадзік. Імяніны кат. 19.07. Імя па бацьку — Вадзіслававіч, Вадзіславаўна і Вадзіславіч, Вадзіслаўна.

**Ваўжынец.** Імяніны кат.: 21.07; 18.08; 14.11. Імя па бацьку — Ваўжынцавіч, Ваўжынцаўна.

**Вадзімір.** Вадимир (слав.) — той, хто кіруе мірам. Вытв.: глядзі імя Вадзім. Імяніны 22.04. Імя па бацьку — Вадзіміравіч, Вадзіміраўна.

**Васілёк, Васілька** (бел.). Паходзіць ад назвы кветкі валошкі. Вытв. ад імя Васіль. Імяніны: глядзі імя Васіль. Імя па бацьку — Васількавіч, Васількаўна.

**Вежа** (бел.). Імя па бацьку — Вежавіч, Вежаўна.

**Велімір** (слав.). Вытв.: Вель, Вельчык, Мірчык. Імя па бацьку — Велімірыч, Веліміраўна.

**Велімудр** (слав.). Імя па бацьку — Велімудравіч, Велімудраўна.

**Веньямін.** Вениамин (яўр.) — сын дзясніцы. Вытв.: Веня, Венька, Венечка, Міня, Мінька. Імяніны: пр. 27.01; 13.04; 10.09; 26.10; кат. Беніямін — 31.03. Імя па бацьку — Веньямінавіч, Веньямінаўна.

**Венчыслаў** (слав.) — той, хто завяршае славу, ад слоў венчаны славай. Вытв.: Венчык, Венчысь. Імяніны 16.05. Імя па бацьку — Венчыславіч, Венчыслаўна.

**Віктусь, Віктар.** Виктор (лац.) — пераможца. Вытв.: Віця, Віцё, Віцейка, Віценька, Віцёк, Віцік, Віцічак, Віцька, Віцечка, Віцюк, Віцюля, Віцюня, Віцюха, Віцюш, Віцяй, Віцяйка, Віцяк, Віцян, Віцяха; Віт, Вітак, Віктось, Віктарка. Імяніны: пр. 13.02; 23.03; 2, 24.04; 1.05; 29.09; 24.11; кат. 25.02; 6.03; 12.04; 8, 21.05; 25, 28.07; 17.10; 8, 12.11. Імя па бацьку — Віктусевіч, Віктусеўна і Віктаравіч, Віктараўна.

**Вільгельм.** Вильгельм. (ням.) — паходзіць ад слоў воля і шлем. Вытв.: Віль, Вілік, Вілька. Імяніны: кат. 10.01; 8, 25.06. Імя па бацьку — Вільгельмавіч, Вільгельмаўна.

**Вінцэсь.** Викентий (лац.) — той, які перамагае. Разм. Вінцэнт. Вытв.: Вінцік, Вінка, Вінусь, Вінцусь, Вінцук, Вінцучок, Вінцуль, Вінцэк, Вінак. Імяніны: пр. 24.11; кат. 22.01; 5.04; 19.07; 27.09; 9.10. Імя па бацьку — Вінцэсевіч, Вінцэсеўна.

**Вісарыён.** Виссарион (грэч.) — лясны. Імяніны 21.06. Імя па бацьку — Вісарыёнавіч, Вісарыёнаўна.

**Віт.** Вит (лац.) — пераможаны. Вытв.: Віцік, Вітка, Вітушка. Імяніны: пр. 29.05, 28.06; кат. 15.04. Імя па бацьку — Вітавіч, Вітаўна.

**Віталь.** Виталий (лац.) — жыццёвы. Вытв.: Віталя, Віталё, Віталька, Вітальчык, Віля, Вілік, Вілічак; Віта, Вітар, Вітак, Вітара, Вітка, Вітачка, Вітуня, Вітусь, Вітунька, Вітуха; Таль, Талік, Талічак, Талька. Імяніны: 7.02; 5, 11.05. Імя па бацьку — Віталевіч, Віталеўна.

**Вітаўт.** Магчыма ад скандынаўскага Витольд — белы ўзгорак. Вытв.: Вітась, Вітасік. Імяніны кат. 12.11 Імя па бацьку — Вітаўтавіч, Вітаўтаўна (і Вітаўна).

**Відзібор** (слав.). Імя па бацьку — Відзіборавіч, Відзібораўна.

**Войцах** (слав.) — магчыма, ад слова воін. Імяніны кат. 23.04. Імя па бацьку — Войцахавіч, Войцахаўна.

**Воўк** (слав.). Вытв.: Вова, Ваўчок, Воўка. Імя па бацьку — Воўкавіч, Воўкаўна.

**Восіп.** Язэп. Иосиф (яўр.) — павялічаны, памножаны. Разм.: Юзік, Язэп, Осіп, Есіп. Вытв.: Восіпка, Есь, Есік, Есіпка, Зютак. Імяніны: пр. 8.02; 17.04; 20, 24.05; 22, 28, 29.09; 4.10; 16.11; кат. Язэпа 19.03; 1.05; 23.06.

**Вукола.** Вукола. Імяніны пр. 19.02. Імя па бацьку Вуколавіч, Вуколаўна.

**Вышамір.** Вышемир (слав.) — верагодна, ад слоў узвышаць мір. Вытв.: Вышак, Мірчык, Мірык. Імя па бацьку — Вышамірыч, Вышаміраўна.

**Вышаслаў.** Вышеслав (слав.) — ад слоў узвышаць славу. Вытв.: Вышак, Вышай, Славік. Імя па бацьку — Вышаславіч, Вышаслаўна.

**Вячаслаў, Вяслаў, Слава.** Вячеслав (слав.) — верагодна, той, хто славіць, абвяшчае пра славу, хто марыць праславіцца. Вытв.: Вячык, Чэсь, Чэсік, Слава, Славік, Славусь, Славуня. Імяніны пр. 17.03; 11.10.

*(Працяг будзе).*

*РЭХА*

# *Вітаржэнец ці Вітажэнец*

Нядаўна ў «Нашым слове» (№ 12, 23 сакавіка г. г.) быў надрукаваны артыкул Мар'яна Віжа «Запавет змагара». Там прыводзіўся адзін жандарскі дакумент, дзе названа імя, пад якім хаваўся Кастусь Каліноўскі — Ігнацій Вітаржэнец. А ніжэй быў апублікаваны верш Алеся Разанава «Арышт Кастуся Каліноўскага», дзе Кастусь Каліноўскі ўжо названы Вітажэнцам. Натуральна, у мяне ўзнікла пытанне: пад якім усё ж псеўданімам пражываў перад арыштам у Вільні Кастусь Каліноўскі — Вітаржэнец ці Вітажэнец? Дадам, што такое розначытанне сустракаю ўжо не першы раз у розных друкаваных крыніцах.

Мне падабаецца «Наша слова» за сваю беларускасць, за патрыятызм і праўдзівасць, за шырыню гістарычнага і сучаснага культурнага агляду. Дзякуючы вашай газеце я даведаўся шмат новага і цікавага з айчыннай гісторыі, мне адкрыліся вочы на многае, што раней знаходзілася пад забаронай.

У згаданым нумары быў надрукаваны і артыкул Анджэя Мацэнькі «Ці гінуць беларусы ў Югаславіі», дзе гаворка вялася аб югаслаўскіх беларусах (русінах). Для мяне гэта было нова, бо такое я чую ўпершыню, не падазраваў нават, што ў Югаславіі жывуць нашчадкі беларусаў. Не магла б газета больш падрабязна расказаць аб гэтых русінах?

**Андрэй ШКУТ.**
**в. Андрэеўцы.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Паважаны Андрэй, дзякуем за добрыя словы, выказаныя ў адрас нашай газеты. Паведамляем, што рапарт жандарскага афіцэра аб пакаранні К. Каліноўскага мы надрукавалі ў строгай адпаведнасці з існуючымі «Правіламі публікацыі гістарычных дакументаў». Яны, у прыватнасці, прадугледжваюць, каб кожная публікацыя цалкам адпавядала тэксту арыгінала. Таму любыя змены пры цытаванні гістарычных крыніц з'яўляюцца недапушчальнымі. Гэта распаўсюджваецца нават на выпадкі, калі пэўны дакумент мае факталагічныя памылкі, як гэта, напрыклад, было ў згаданым рапарце. Аўтар яго, спяшаючыся, відаць, як мага хутчэй данесці начальству аб павешанні Каліноўскага, сказіў нелегальны псеўданім змагара, што, дарэчы, не з'яўляецца рэдкасцю для дакументаў, напісаных па гарачых слядах падзей. Дададзім, што ва ўсіх аўтарытэтных навуковых даследаваннях («Слоўнік беларускіх псеўданімаў» Я. Саламевіча, энцыклапедычныя выданні, працы Г. Кісялёва, В. Шалкевіча і інш.) адназначна падкрэслена: апошні віленскі псеўданім Каліноўскага — Вітажэнец.**

**Што да пытанняў аб югаслаўскіх русінах, то на іх у гэтым нумары «Нашага слова» адказвае доктар філалагічных навук Г. Цыхун.**

